# МАЛАДЫ АРАТЫ

ЧАСОПІСЬ СЯЛЯНСКАЙ МОЛАДЗІ
ОРГАН ЦКЛКСМБ





№ 15 1925 г.

Пролетарыят Віцебску вітае Беларускі Рабоча-Сялянскі Ўрад, у часе прыезду яго на 2-ую Сэсію ЦВК БССР.



# Тав. Варашылаў назначан Наркомам па вайсковых і марскіх справах.

*Па пастанове прэзыдыуму Саюзнага ЦВК Народным Камісарам па вайсковых і марскіх справах Саюзу ССР і старшынёю Рэволюцыйнага Вайсковага Савету Саюзу ССР назначан тав. Варашылаў Клім Яфрэмавіч.*

Тав. Варашылаў радзіўся ў 1881 годзе ў Бахмуцкім павеце, Кацярынаслаўскай губ. Бацькі яго сяляне-батракі.

У пятнаццаць гадоў тав. Варашылаў паступае на завод, дзе знаёміцца з рэволюцыйным рухам і робіцца яго застрэльшчыкам. За свой шматгадовы ўдзел у рэволюцыйным руху тав. Варашылаў шмат разоў заарыштоўваўся. У пачаку 1904 г. ён выбіраецца членам ЦК бальшавіцкай партыі.

У Кастрычнікавую рэволюцыю 1917 г. тав. Варашылаў быў адным з актыўнейшых удзельнікаў у Ленінградзе.

У грамадзянскую вайну тав. Варашылаў атрымлівае ўзнагароду — два ордэны Чырвонага Сьцягу. У апошні час ён быў начальнікам Маскоўскай Вайсковай акругі.

---

# Што робіцца за межамі СССР.

### Ангельскі імпэрыялізм хоча задушыць Кітай.

Ангельскаму імпэрыялізму мала таго, што ён нарабіў у Кітаі, яго не задавальняюць расстрэлы і катаваньні кітайскіх рабочых і сялян,—ён парашыў „назаўсёды“ задушыць рэволюцыйны рух у Кітаі.

Для гэтай мэты ён абраў двух вядомых гэнэралаў-прадаўцаў: Чжан-Цзо-Ліна і Чэн-Міна. Гэтыя гэнэралы за грошы прадаюцца любому гаспадару.

Рэволюцыйны ўрад на поўдні Кітая—у Кантоне—сядзіць у галаве ангельскіх драпежнікаў, як костка ў горле.

Там на чале ўлады стаяць сапраўдныя прадстаўнікі працоўнага насельніцтва Паўднёвага Кітаю. Процію Кантону знаходзіцца ангельскі порт Гонгконг; праз гэты порт праходзіць амаль што адна трэцяя частка тавараў, якія адпраўляюцца з Ангельшчыны ў Кітай і з Кітаю ў Ангельшчыну, а таму гэты порт іграе вялікую каштоўнасьць ў гандлёвым жыцьці Кітаю. Кантонскі ўрад стараецца абараняць інтарэсы кітайскага народу пры гандлі з Ангельшчынай (пры пытаньні аб пошлінах, акцызах, перавозе і г. д.). Гэта не ў спадобу ангельцам, якія прывыклі адчуваць сябе ў Кітаі, як дома. А таму Ангельшчына і стараецца скінуць народна-рэволюцыйны ўрад, таму яна і падкупіла кітайскіх гэнэралаў, каб змагаліся з паўстаньнямі, утварыла ў Кантоне атрады фашыстых, наймала забойцаў, каб зьмясьці з жыцьцёвага шляху адпаведных работнікаў кантонскага ўраду. Але нішто не памагала, бо рабочыя і сяляне падтрымлівалі гэты ўрад і па першаму зову ішлі на барацьбу з наймітамі ангельскага імпэрыялізму Апошнія весткі з паўдня Кітая кажуць аб тым, што Ангельшчына засыпала гэнэрала Чэн-Міна аружжам і грашыма і дала яму на гэты раз наказ—чаго б гэта ні каштавала, але павінен задушыць малады рэволюцыйны ўрад Паўднёвага Кітаю. Але гэтага ні Ангельшчына, ні Чэн-Мін ня здолеюць зрабіць, бо на баку Кантону сяляне і рабочыя. Тое-ж самае прарабляе Ангельшчына і ў Шанхаі, дзе ўжо 4 месяцы кітайскія рабочыя вядуць гэроічную барацьбу з чужаземнымі драпежнікамі. У Шанхаі ўвесь час цягнецца паўстаньне. Дзьвесьце тысяч рабочых, якія, галодныя і абдзёртыя, парашылі змагацца да пабеднага канца. Іх вытрыманасьць у барацьбе дорага каштуе ангельскім гандлярам, таму што ўсе фабрыкі не працуюць.

Таксама Ангельшчына прыказала свайму другому найміту—Чжан-Цзо-Ліну—выкрыць і разагнаць усе рабочыя організацыі ў Кітаі. Армія Чжан-Цзо Ліна часткаю разагнала рабочыя саюзы, заарыштавала членаў рабочых комітэтаў, некаторых расстраляла. Ангельскія імпэрыялістыя думалі, што гэтым самым яны перамогуць рабочых, але ў адказ пасыпаліся гучныя протэсты ад усяго кітайскага пролетарыяту. Па ўсёй краіне праводзіцца збор грошай на падтрымку паўстаўшых. Чжан-Цзо-Лін, як відаць з яго слоў, будзе і ў далейшым па прыказу сваіх гаспадароў расстрэльваць рэволюцыянэраў. Але рэволюцыйны рух у Кітаі шырыцца, і не бандытам, наймітам капіталу, гэты рух задушыць!

---

# Сусьветны Комсамол.

### За сталёвымі кратамі.

У Вэнгрыі заарыштаваны: правадыр компартыі тав. Ракошы, яго сакратар, работнік Вэнгэрскага комсамолу, Вэйнбэргэр, які раней працаваў у СССР, у Арле, і яшчэ шмат комуністых і комсамольцаў. Арыштаваныя ў знак протэсту абвясьцілі галадоўку і іх кормяць сілком. Цяпер яны аддадзены надзвычайнаму суду.

### Комсамол Францыі.

— Францускія комсамольцы наладжваюць хлапцом, якія ідуць у армію, цэлы шэраг вечароў-провадаў. Часта наладжваюцца яны таемна ад паліцыі. На вечарох прымаюць удзел комсамольскія драмгурткі. Салдатам раздаваліся спэцыяльныя комсамольскія газэты.

— Конфэрэнцыя парыскай (галоўны горад Францыі) організацыі комсамолу ўхваліла прыцягнуць усю працоўную моладзь да 24-хгадзіннай забастоўкі ў знак протэсту проці войн у Марока і Сірыі (Усход).

— Лік членаў комсамолу Францыі больш за 16 тысяч. За апошнія два тыдні ўступіла 700 чалавек.

Ленінскі Комуністычны Саюз Моладзі Беларус

# МАЛАДЫ АРАТЫ

Орган ЦК ЛКСМБ.
Двухтыднёвая часопісь Сялянскай Моладзі.

№ 15 | Лістапад 1925 г. | Менск



## Праца другой сэсіі ЦВК БССР.

З 26 па 31 кастрычніка ў гор. Віцебску адбывалася другая сэсія (нарада) гаспадара зямлі Беларускай—Цэнтральнага Выканаўчага Комітэту Саветаў Рабочых, Сялянскіх і Чырвонаармейскіх Дэпутатаў.

Сябры ЦВК з усіх месц Беларусі прыехалі ў Віцебск спэцыяльным цягнікам, які з вялікім пад'ёмам пачуцьця сустракалі рабочыя дый сяляне Барысава, Воршы, Багушэвічі, урэшце, працоўныя Віцебску і дэлегаты-сяляне Віцебскае акругі.

Наш урад—гэта ня тыя буржуазныя „парляманты", якія патаемна раней абгавораць законы, выращаць іх, а ўжо гатовенькімі, ня гледзячы на тое ці добра, ці дрэнна яны іх вырашылі, падсоўваюць насельніцтву свае краіны.

Урад выехаў вырашаць пытаньні жыцьця Рэспублікі ў Віцебск і вырашыў іх пры чынным удзеле сялян—дэпутатаў Віцебшчыны і рабочых г. Віцебску; усё гэта лішні раз падкрэсьлівае нам вычэрпваньне сіл з гушчы працоўных, удзел у кіраваньні краінай саміх рабочых і сялян.

Досыць азнаёміцца з пытаньнямі, якія вырашаліся на сэсіі, каб упэўніцца, што вырашаныя пытаньні зьяўляюцца найгалоўнейшымі ў жыцьці працоўнай Беларусі.

Першае пытаньне, якое вырашана на Сэсіі—гэта

### зацьверджаньне бюджэту Рэспублікі на 1925-26 год.

У параўнаньні з мінулым 24-25 годам наш бюджэт (сродкі выдаткаў і прыбыткаў) значна павялічаны, прычынаю чаго зьяўляецца паляпшэньне эканомікі краіны. У гэтым годзе валавы ўраджай збожжа ў параўнаньні з мінулым годам павялічыўся на 9 проц., ураджай бульбы—на 22 проц., пасяўная плошча павялічылася на 9 проц., плошча пад тэхнічнымі культурамі (лён і г. д.) узрасла на 48 проц. Побач з гэтым узрасла і наша прамысловасьць (на 34,7 проц. у параўнаньні з мінулым годам).



Сяляне—сябры ЦВКБ.

Такі ўзрост эканомікі краіны дазваляе нам павялічыць наш бюджэт пры дапамозе СССР на 84,5 проц. у параўнаньні з мінулым годам.

Аднак, у нашых умовах, у той час, калі мы атрымалі ў спадчыну ад царскага ладу і пасьлядоўчых разбураньняў краіны—окупацый, мы зьяўляемся беднай краінай, нашыя запатрабаваньні значна шырэйшыя за нашы магчымасьці, і наш бюджэт зьяўляецца яшчэ дэфіцытным (выдаткі перавышаюць прыбыткі). І на сэсіі падкрэсьлівалася, што пры такіх умовах мы прымушаны зьвяртацца да ўсяго Савецкага Саюзу за дапамогай. І гэтую дапамогу мы атрымліваем, але ня коштам падчыненьня нашай незалежнасьці, як гэта мы бачым у дробных буржуазных дэмократычных краінах (Літва, Латвія і інш), а ў парадку братэрскага, прыяцельскага падтрыманьня з боку больш багацейшых Савецкіх Рэспублік, уваходзячых у Саюз Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Але сэсія падкрэсьліла і тое, што ў сувязі з агульным ростам нашай гаспадаркі ўзмацняецца і наш бюджэт; між іншым мы закладаем сталы грунт для мясцовага бюджэту, які абслугоўвае патрэбы шырокіх колаў сялянскіх мас.

Галоўная ўвага ў бюджэце на гэты год аддадзена, як і трэба было чакаць, народнай асьвеце (наша краіна нізка стаіць па сваёй культуры), ахове здароўя працоўных (хваробы ў нашых вёсках) і сельскай гаспадарцы (занепад сельскай гаспадаркі пасьля імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайны).

Цесна зьвязана з водпускам сродкаў на адбудову сельскае гаспадаркі Беларусі другое пытаньне, якое стаяла на сэсіі—





## Пяцігадовы плян аднаўленьня сельскае гаспадаркі БССР.

У нашай вёсцы ідзе вялічэзная будаўнічая праца па адбудове сельскай гаспадаркі. Адначасова ў вёсцы прывіваюцца новыя формы жыцьця, вёска пераходзіць на новыя формы зямлякарыстаньня, ідзе будаўніцтва новай савецкай вёскі.

Усе гэтыя запатрабаваньні нашай вёскі прадугледжаны ў пляне аднаўленьня сельскае гаспадаркі. Народны Камісарыят Земляробства Беларусі ставіць задачы: у мажліва шырокім разьмеры зьліквідаваць зямельную перазалюдненасьць, якая дасягнула ў Беларусі да гэтага часу найбольшай ступені параўнаўча з іншымі перазалюдненымі часьцінамі Саюзу; як мага больш зьменшыць утойнае беспрацоўе ў вёсцы, ахапляючае 30-40 проц. усіх сельскіх насельнікаў, і ў бліжэйшы час зьліквідаваць групу безьзямельных і дужа малазямельных, дасягаючую 38 проц. агульнага ліку сялянскіх двароў, і спосабам найбольшага разьвіцьця вытворчых сіл сельскае гаспадаркі зьмяніць спажывецкі характар сялянскае гаспадаркі, паставіўшы яе на рэйкі таварна-грашовае гаспадаркі.



Усебеларускі стараста т. Чарвякоў вядзе размову з сялянамі Віцебскай акругі.

Пяцігадовы плян работ складаецца з мерапрыемстваў зямельнай і сельска-гаспадарчай політыкі.

Першая (зямельная) будзе ажыцьцяўляцца спосабам стварэньня пэўных праваых нормаў для насельнікаў, працуючых на сельскай гаспадарцы, правядзеньня зямляўпарадкаваньня, мэліорацыі, культуртэхнікі і далейшага організаваньня зямельнага фонду і перасяленьня.

Другая (сельска-гаспадарчая)—цэлай сыстэмай мер будзе дапамагаць узмацненьню ўсіх галін сельскае гаспадаркі (ральніцтва, садоўніцтва, жывёлагадоўля і гэтак дал.) і павялічваць яе таварнасьць дапасавальна да ўсіх раёнаў Рэспублікі.

Для вырашэньня пастаўленых задач плян прадугледжвае раней за ўсё разьвіцьцё ў шырокім абхваце зямляўпарадчых работ так, каб у бліжэйшыя пяць год ахапіць да 60 проц. патрабуючай зямляўпарадкаваньня зямлі, што ў лічбах, паводле пляну работ, дае 2.961.665 дзесяцін.

Зацьвярджаньне пяцігадовага пляну адбудовы сельскай гаспадаркі БССР магчыма было зрабіць на сэсіі толькі таму, што наша гаспадарка наогул вырасла, і на гэтай аснове ўзросту мы маем магчымасьць ва ўсёй шырыні паставіць пытаньне пра аднаўленьне сельскае гаспадаркі ня толькі на бліжэйшы год, але й на цэлае пяцігодзьдзе.

## Рэалізацыя ўраджаю.

У зьвязку з неабходнасьцю даць пэўныя напрамкі рэалізацыі ўраджаю сэсіяй ЦВК быў заслуханы даклад Народнага Камісарыяту Ўнутранага Гандлю аб пляне рэалізацыі, які зьяўляецца жыцьцёвым пытаньнем сёньня і для вёскі і для гораду. Сэсія ЦВК вынесла цэлы шэраг пастаноў, сярод якіх мы бачым: зазначаючы ўсё яшчэ ня досыць сталае забясьпечаньне рынку прамысловымі таварамі і запытаньне, якое павялічваецца на іх, сэсія палічыла, што бліжэйшай задачай дзяржаўных і коопэрацыйных організацый павінна быць забясьпечаньне рынку, у першую чаргу сялянскага, прамысловымі таварамі, прымаючы крокі да далейшага зьніжэньня розьнічных цэн, асабліва на тавары сялянскага ўжытку. Поплеч з пытаньнямі аб шляхох рэалізацыі хлеба сэсія пастанавіла ня меншую ўвагу зьвярнуць на пытаньні аб рэалізацыі іншых продуктаў сельскае гаспадаркі, асабліва продуктаў жывёлагадоўлі і тэхнічных культур, разьвіцьцё якіх паказала карысьць для сельскае гаспадаркі.

Сярод іншых мерапрыемстваў, адносна правільнай рэалізацыі ўраджаю, сэсія, прымаючы пад увагу важнасьць і неабходнасьць сваечасовага забясьпечаньня сялянства сельска-гаспадарчымі машынамі і прыладамі, даручыла паклапаціцца хутчэй правесьці падпіску сялян на гэтыя машыны і прылады з абавязковай дастаўкай у пэўныя тэрміны і па пэўнай цане.

Ня менш важным для сялянства зьяўляецца і прыняты на сэсіі закон—

## аб перадачы лясоў мясцовай значнасьці сялянству.

Перадача лясоў мясцовай значнасьці праводзіцца ў жыцьцё згодна пастановы 2-ой Сэсіі ЦВК мінулага скліку (1924 г.). Перадача сялянам лясоў у працягу 1924-25 г. выканана ў большай меры, чым раней меркавалі. У бягучы час праца гэта канчаецца і ў выніку гэтага сялянства атрымлівае ад дзяржавы вялікую дапамогу, якая пасабляе далей разьвіваць гаспадарку.

У зьвязку з неабходнасьцю ўпарадкаваньня такой вялізнай справы, пры жаданьні рабочых і ся-

лян атрымаць ад гэтага станоўчыя вынікі, сэсіяй ЦВК вынесены шэраг пастаноў: у працягу трох гадоў упарадкаваць усе лясы мясцовай значнасьці, агульны нагляд за гаспадаркай у гэтых лясох і нагляд за правільным выкарыстаньнем драўсіны ўскласьці на сельсаветы і райвыканкомы. Лесатэхнічнае кіраўніцтва і контроль робіцца кіраўніцтвам Наркамзему.

Апроч гэтага сэсія пастанавіла:

Ужыць меры падахвочваньня сялянства да засеву лесам тых плошчаў, якія зьяўляюцца нягоднымі для сельскай гаспадаркі.

У тых раёнах, якія знаходзяцца каля зямель ляснога фонду і дзе ў карыстаньні сялян ёсьць няўдобныя землі (сыпучыя пяскі, каменістыя глебы і г. д.), у выпадку, калі сяляне пажадаюць памяняцца гэтымі землямі на землі ляснога фонду, прапанаваць Наркамзему абмяняць іх, калі абмен магчымы бяз шкоды для лясное гаспадаркі. Абмененыя сялянам землі паступаюць у лясны фонд.


Дэлегацыя ад сялян Віцебшчыны і Полаччыны, якая прыехала вітаць сэсію.

Каб забясьпечыць сапраўднасьць перадачы былых сялянскіх лясоў цалкам, даручыць Наркамзему не назначаць таргі для здавальненьня спажыўцоў на лесасекі ў гэтых лясох.

І, урэшце, усе лясы мясцовай значнасьці сэсія прызнала не падлягаючымі абкладцы сельска-гаспадарчым падаткам.

Такім чынам, упарадкаваньне ляснoй гаспадаркі Беларусі, на аснове правільнай эксплёатацыі, зьяўляецца зарукай далейшага разьвіцьця яе.

Водгукам жыцьця нашай вёскі зьяўляецца і абгаворанае на сэсіі пытаньне

## пра саўхозы.

Былыя панскія маёнткі займалі ў 1917 годзе 39 проц. зямельнай плошчы, а 54,6 проц. была маемасьцю сялянства. Цяпер-жа існуючыя 154 саўхозы і племхозы ва ўсёй Рэспубліцы маюць плошчу ў 79.632 дзесяціны, што да агульнай плошчы зямлі ў БССР складае 0,8 проц., а да ўдобнай 0,6 проц. Разьмеркаваньне савецкіх гаспадарак магло-б даць безьзямельным і малазямельным гаспадаркам 0,14 дзесяціны, альбо 67 кв. саж. на чалавека. Такая невялікая плошча ня мае значнасьці ў павялічэньні зямельнага фонду Рэспублікі. Гэта з аднаго боку. З другога—савецкія гаспадаркі па сваёй велічыні зьяўляюцца такімі, якія пры машыннай апрацоўцы павінны даць найбольшую выгаду пры найменшай затраце рабочай сілы, што і азначае культурную іх значнасьць. Саўхозы павінны стаць культурнымі паказальнымі гаспадаркамі, якія-б дапамагалі заўсёды сялянству агрономічнымі парадамі і справай.

Так востра стаячае пытаньне было разгледжана сэсіяй, і ўрэшце мы маем пастанову:

Бяручы пад увагу тое, што сетка савецкіх гаспадарак скарочана да мінімуму і што савецкія гаспадаркі робіцца ўжо праваднікамі сельска-гаспадарчае культуры на вёсцы, існуючую сетку савецкіх гаспадарак захаваць і зрабіць усе захады для далейшага іх умацаваньня.

З прычыны росквіту чыннасьці савецкіх гаспадарак паступова пашыраць і паглыбляць агрыкультурную дапамогу жыхарству: набыцьцё племяннога і насеннага матэрыялу, заснаваньне злучных, збожжаачысных і пракатных пунктаў, організацыя выставак з лекцыямі і дакладамі з тым, аднак, каб правядзеньне паказальнае працы адпавядала гаспадарчым магчымасьцям савецкіх гаспадарак.

Апроч таго, савецкія гаспадаркі павінны стаць у далейшым праваднікамі на вёсцы палепшаных формаў вядзеньня сельскае гаспадаркі на аснове машынізацыі.

Заўважваючы на шэраг ненормальных зьяўішчаў у працы савецкіх гаспадарак, як, напрыклад, мeўшая месца здача паплавоў па высокай ацэнцы, вялікая плата за пашу сялянскае жывёлы, нізкая плата працы ў сэзонны пэрыод, што выклікала ненормальныя ўзаемаадносіны з ваколічным сялянствам, даручыць Народнаму Камісарыяту Земляробства зрабіць захады для ўрэгуляваньня гэтых пытаньняў і наглядаць за выкананьнем іх.

Закончыць у працягу 1926 г. зямляпаўрадкаваньне савецкіх гаспадарак і разам з тым перагледзець паплаўныя дзялянкі, якія ляжаць далёка ад гаспадарак і ня могуць быць скарыстаны імі; пры зямляўпарадкаваньні належыць гэтыя дзялянкі перадаць для надзяленьня сялян.

Заўважваючы на нізкую заработную плату рабочых савецкіх гаспадарак, зьвярнуць увагу на паступовае павялічаньне заработку ў залежнасьці ад вытворчасьці працы і ўмацаваньня савецкіх гаспадарак. Зрабіць захады для палепшаньня кватэр, мэдыцынскага абслужваньня і ўзмацненьня культурна-асьветнае працы.

Сэсія ЦВК заслухала даклад Полацкага Акруговага Выканаўчага комітэту пра

## становішча Полацкае акругі.

Сэсія прызнала, што за пэрыод часу з моманту ўзбуйненьня БССР ў Полаччыне ёсьць пэўныя дасягненьні ў справе палепшаньня політычнага і культурнага ўзроўню акругі і наладзіліся сталыя ўзаемаадносіны шырокіх рабочых і сялянскіх гра-

мад з савецкай уладай. Між іншым, гэта выявілася ў часе правядзеньня апошняй спробнай мобілізацыі, у часе якой зьявілася вайсковаабавязаных 100 проц., а з гэтае прычыны сэсія ЦВК прызнае працу Полацкага Акруговага Выканаўчага Комітэту здавальняючай і напрамак кіраўніцтва правільным.

Сэсія знаходзіць, што ў выніку ўзбуйненьня БССР і раёнаваньня, савецкі апарат значна палепшыўся ў якасных адносінах, скараціўся і стаў больш простым, апарат у значнай меры праблліжаны да абслужваньня розна-нацыянальных мас жыхарства акругі. Акруговаму Выканаўчаму Комітэту ўдалося дабіцца пэўнага ўзрушэньня ў кірунку падняцьця сельскае гаспадаркі і культурнага ўзроўню жыхарства. Разбураныя ў пэрыод апошніх імпэрыялістычнай і грамадзянскай войн і шэрагу окупацый горад Полацк і раённыя асяродкі прыметна адраджаюцца. Адначасна з гэтым, сэсія адзначыла надзвычайна цяжкія ўмовы ў справе шпаркага адраджэньня экономікі і культуры з прычыны гістарычнага мінулага Полацкае вакругі і вынесла пастанову аб дапамозе з боку Беларускага ўраду ў галіне далейшай адбудовы як сельскай, так і гарадзкой гаспадаркі Полаччыны.

### Суд і законы.

Судовыя пытаньні, законы ўраду, прыстасаваньне іх на вопытах мінулага глыбей да жыцьця—гэтак сама выклікаецца нормай жыцьця Рэспублікі; з гэтае прычыны і зразумела, чаму на сэсіі стаяць пытаньні: палажэньне аб судабудаўніцтве БССР, зьмяненьне артыкулаў крымінальнага кодэксу і зацьверджаньне законаў, прынятых прэзыдыумам ЦВК і СНК у часе паміж першаю і другою сэсіямі ЦВК БССР.

Сэсія падкрэсьліла, што пытаньне аб узмацненьні рэволюцыйнай законнасьці, асабліва ў вёсцы, зьяўляецца адным з найважнейшых, без ажыцьцяўленьня якой немагчыма аніякае далейшае савецкае будаўніцтва.

### З заключнай прамовы т. Чарвякова.

„Закон напісаць—гэта адна справа; мы яго напісалі так, як па нашаму разуменьню гэта будзе лепш усяго для карысьці рабочых і сялян. Цяпер надыходзіць другая паласа ў нашай працы, як прадстаўнікоў рабочых і сялян: выкананьне напісаных намі законаў. Мы напісалі законы для таго, каб кожны член ЦВК, кожны рабочы і селянін гэтыя законы дапасаваў да ўмоў свайго мясцовага жыцьця; выкарыстаў гэтыя законы ў сваёй штодзеннай працы; каб на грунце гэтых законаў ён выпрацаваў свой маленькі плян працы, якая зьяўляецца аднэй з складаных частак усяго нашага будаўніцтва. Трэба прыняць меры к таму, каб нашы законы, якія мы прынялі і зацьвердзілі, былі дакладна выкананы“.

Заданьні вясковых комсамольцаў і моладзі, як удзельнікаў у будаўніцтве Савецкай Беларусі, растлумачваць гушчам сялянства пастановы гаспадара зямлі Беларускай—Цэнтральнага Выканаўчага Комітэту—і сачыць за правільным правядзеньнем іх на мясцох у жыцьцё.

**Іл. Барашка.**

## Тры гады шэфства над флётай.

У кастрычніку гэтага году споўнілася 3 гады з часу прыняцьця комсамолам шэфства над чырвонай морскай флётай.

Кожны год у кастрычніку, пачынаючы з 5-га зьезду ЛКСМ, мы падлічваем, што намі зроблена для флёты і якія ў нас, у нашым шэфстве, ёсьць недахваты, якія трэба зьнішчыць.

Дзьвюма ўмовамі бояздольнасьці флёты зьяўляюцца:

Спраўныя, абсталяваныя па апошняму слову тэхнікі караблі і добра абучаны і падрыхтаваны асобны склад.

Войны пакінулі Рэспубліцы замест флёты „разьбітыя карыты“, частку флёты зьвёз Врангель. Савецкі ўрад пачаў будаваць флёту і для флёты патрабаваліся людзі.

Узяўшы шэфства, комсамол гэтых людзей даў.

Комсамол даў флёце тысячы комсамольцаў, запоўніўшы ім страявыя часткі, морскія школы.

І к трэцяй гадавіне мы бачым, што з пасланых намі комсамольцаў складаецца грунтоўны кадр спэцыялістых флёты.

У флёце вырасьлі дужыя комсамольскія організацыі, што вядуць працу па ўзмацненьні і будаўніцтву морскай флёты.

Праходзіўшыя нядаўна манэўры Бальтыцкай флёты былі прыкладам таго, што ў справе будаўніцтва флёты мы маем вялікія дасягненьні.

Ці можам мы супакоіцца на зробленым для флёты?

Вядома, ня можам!

Вакол нас кола капіталістычных дзяржаў.

Гэтыя дзяржавы пад шумок узмацняюць сваю ўзброенасьць, у тым ліку і морскую флёту.

Комсамол павінен памятаць гэта ў першую чаргу.

Чацьвертая Ўсесаюзная конфэрэнцыя РЛКСМ зрабіла пастанову пашырыць шэфскую працу і да будучага Ўсесаюзнага зьезду ЛКСМ пабудаваць атрад з 6 гідрасамалётаў.

Гэты атрад будзе падароны морскай флёце.

Наша заданьне—яшчэ больш узмацніць працу па шэфству.

Існуючыя ваенна-морскія куткі пры ячэйках і клюбах трэба вывесьці з застою і пачаць у іх працу.

# ЛІТАРАТУРНЫ АДДЗЕЛ.

## Чырвоныя пастушкі.

*(Апавяданьне).*

Яе вялікія, як-бы заплесьніўшыя ад старасьці, вочы, пад зьвісшымі маршчыністымі стрэхамі век, глядзелі ясна, але палахліва, на сакратара мястэчковай ячэйкі комсамолу. Ён казаў сябром бюро, што вось гэта бабуся зараз скажа па пытаньні аб працы сярод піонэраў... Спыніўся журчаўшы ласкавым раўчачком у цішы комсамольскага пасяджэньня голас прамоўцы... Гучныя воплескі, радасныя галасы й сем пар вясёлых вачэй віталі ўстаўшую з крэсла бабулю; упрасілі гаварыць седзячы. Міргаючы вачыма, з дзіцячай сарамлівасьцю бабуля пачала.

— Даруйце мне, дарагія дзеткі, што я можа што й ня так скажу, бо няпісьменная я, але хачу сказаць пра вашыя-ж дзялы, пра вашых-жа комсамольцаў, ці як іх тут... запамятавала... ах,—і ражок хусткі зьвярцеўся ў яе касьцьлявых руках.

— Піонэраў, бабуля!—падказаў нейкі хлопец.

— Во, во, во! Гэтых самых піонэраў. Так, так. З чырвонымі гальштучкамі што ходзяць і ў штоніках кароценькіх... Во, во! аб іх...

— Дык вось... што-ж гэта я хацела сказаць?..— Зноў заміргала вачыма. Успомніла.

— ...Ага, дык вось, хачу вам паведаміць, што і ў нас у вёсцы пастухі ў піонэры хочуць ісьці, але бацькі пакуль што дзяруць ім толькі задніцу...

Зірнула наўкола... Засаромілася, пачырванела. Сьлязьлівая павалока зацягнула вочы.

— Але-ж я за іх, за іх я, ну... за дзяцей за гэтых я прышла сказаць вам.

Блуталася трохі бабуля ўзрушаная, але нітку сутнасьці цягнула, к справе ішла. Усе слухалі, вытарашчыўшы вочы, глядзелі з любячай усьмешкай на вуснах, іншыя паразьзявілі раты. Такая бабуля ім сустрэлася першая, бо-ж іх родныя маткі і то часта лаюць за бязбожнасьць, а тут—такая бабуля.

— Ну, але я вам расскажу пра здарэньне, ляпей зразумееце,—стараючыся найсьці грунт апавяданьню вымавіла.

— Во, во, во! бабулька, просім!—загаманілі прыветна галасы незнаёмых комсамольцаў, чулых, як свае родныя дзеці. Агніста-ласкавы бліск іх вачэй дадаваў бадзёрасьці бабулі.

— Дык вось, у вёсцы нашай ёсьць Мікіта, бедны ён чалавек, пяць год застаўся ад бацькі, нахлябаўся гора: служыў і пастухом, і парабкам, і на фабрыцы працаваў. Прыкладны чалавек, нечага гаварыць, разумным лічыцца ў вёсцы, заўсёды старэйшым вёскі абіраюць, але беднасьць агарнула яго моцна: да бальшавіцкай вайны, бач, нічога ня меў. Цяцер замагацца стаў патрохі. Дзеці абселі: цэлых пяцёра...

— Дык вось, аднаго гэта ён з іх, старшага, значыцца, Юрку, такога, што ай-яй хлапца, змовіў ганяць на пасту ў адзін хутар, ды штось ён там не спадабаўся гаспадаром, а гаспадары яму...

Пачуўшы вальнейшай, узяла сямейны тон і пачала апавядаць далей.

— Вось як там было. У бацькоў была ўмова такая: толькі сьвіньні і авечкі пасьвіць, а больш дзіцяці, значыцца, нічога немагчыма рабіць па слабых сваіх сілах, бо гэта раней толькі можна было. Віш ты, як ён разумна адчыкрыжыў. Дык вось, але як яны,—віш ты, ці то праўда ці няпраўда—



Піонэр—дапісчык.

ня ведаю, але кажуць,—прымусілі і ваду насіць, коні ў поўдзень пасьвіць і яшчэ якую там трасцу рабіць, а ён, Юрка, ня будзь дурань, ды да бацькі на крыўду—фіц, бацька да гаспадара... Там яны гэта, ды толькі вышла, што па руках—і з лазьні: хлапца, віш ты, узяў. Гаворыць: „Бяз хлеба буду, а на вудачку не паддамся. Псавалі нас, а я дзяцей псаваць ня дам. Што ён, кажыць, скажа на мяне, сын мой, тады, калі вырасьце?—Не шкадаваў?— Не, брат, покуль сілы ёсьць—пракармлю. Досыць наеліся абяцаных панскіх пірагоў, ляпей будзем есьці сваю ўласную мякіну“.

— Дык вось, сына ўзяў, сказаў быць дома, але што-б ня дурэць. А хлапец, віш ты, з розумам быў: дурэць ня стаў, пачаў падгаварваць другіх вясковых дзяцей-пастушкоў.

— Было вось як гэта. Насталі цёплыя дні, усе пастушкі й кажуць: „Мы будзем спаць у пуні і ўсе ўмесьце, каб разам, значыцца... у поле выганяць“... А гэта не на тое яны задумалі... Юрка то-ж у бацькі выпрасіўся ў пуню спаць: „Вучыць, моў, буду, кажа, як ненавідзець старое і любіць новае“... Вось як абдумаў. Ну й пашло з гэтага... Што там бывала, хто іх ведае, ды толькі, кажуць, што іншы раз да дня ня спалі. Вось які зухаваты малец гэты Юрка! А?... Дык вось!...

— Аднойчы, у нядзелю, на сходзе сялян прарынула ў хату й гэта машкара, а ў канцы сходу гэты самы Юрка—шэльма—кажа: „Організуйце нам піонэрскі атрад“... Ледзь сказаў ён, як сядзеўшы каля стала Рыгор схапіў яго правай рукой за крашэнь, а левай тыцнуў пад нос дулю з трох пальцаў: „Вось табе атрад!“ А малец стаіць, вылупіўшы вочы, зірыць наўкола, злосна маўчыць... Тады Восіп крывы як стукне, як гукне: „Кыш вон!“ Як куры з-пад мятлы парассыпаліся мальцы... Гутарылі далей, некаторыя казалі за хлапцоў, але другія затукалі. Быўшы тут старшыня сельсавету маўчаў: не маё, моў, дзела...

Сказаўшы гэта, бабуля пачула аблягчэньне па выпаўненьні важнага абавязку... Цяжка ўздыхнула, сморкнулася ў вялікую з чырвонымі каёмкамі насовую хустку і сказала з нейкім задавальненьнем, і радаснымі вачыма пачала вадзіць наўкола.

— Вось і прышла я вам сказаць, што трэба зьвярнуць увагу на нашых пастушкоў, бо яны то-ж некалі будуць людзьмі, і трэба, каб былі карыснымі.

— У вачох бабулі сьвяціліся яскравыя аганькі, выходзячыя як-бы са дна ўскалыхнутага балота... Трашчалі далоні... Сьмяяліся вокны залатой усьмешкай паўднёвага сонца...

Ад імя ячэйкі комсамолу шчыра дзякаваў бабулі за весткі сакратар. Дзякавалі ўсе сябры бюро.

— Ну, бабуля, а як вы к нам зашлі? - спытаў сакратар.

— Ды я-ж жыву пановаму,—задаволеная, ужо пасвойску прызналася старая,—у мяне два сынкі ў арміі: адзін камандзірам чырвоным, другі камісарам ваенным!—Працаваць забаранілі, кажуць: „Напрацавалася, вучыся пісьменнасьці, стань хоць перад сьмерцю чалавекам“... Залатыя мае сыночкі самі ў людзі вышлі!

Шчасьце маткі расплылося па твары. На вачох паказаліся сьлёзы ўміленьня...

Зачынілася пасяджэньне... Разыходзіліся...

— Прыходзьце да нас, бабуля, — казалі ўсе хлапцы на разьвітаньне... Бабуля абяцала...

Хутка чырвоны гальштук у сьвяты гасьціў на грудзёх не аднаго ўжо пастушка вёскі Шаболы.

Доўга яшчэ потым гаварылі пра бабулю хлапцы

*А. Мікуцкі.*

## Жыцьцё політычных зьняволеных у польскіх турмах.

*(З лісту з беластоцкай турмы).*

Асабліва страшны і цяжкі зьдзек учыняецца польскаю поліцыяю і дэфэнзываю над моладзьдзю. Некалькі фактаў, якія мне давялося перанесьці на сабе, дасьведчаць гэтае.

Ужо некалькі дзён, як мы знаходзімся ў Беластоцкім арыштным доме пры дэфэнзыве. Нас згрудзілі некалькі дзесяткаў у адным пакоі. Цесна, горача, цяжка дыхаць. Поліцыянты абыходзяцца жорстка. Большая частка арыштаваных—рабочая моладзь. Пачынаецца дазьнаньне. Усе чакаюць з нецярплівасьцю звароту першага таварыша. Адчыняюцца дзьверы—ён уваходзіць і апавядае, што з ім жорстка абыходзіліся, нясупынна зьнявражалі і білі. Тое самое апавядае і другі. Мы разумеем, што калі з нашага боку ня будзе пярэчаньня, дык усе гэтыя зьдзекі ня канчацца ніколі.

Пазвалі на дазнаньне кволага сухотнага маладога рабочага. Ужо прашоў доўгі час, а яго адтуль няма. Усё гэта пачынае здавацца падазроным. Ізноў паўстае перад намі здань страшэннага збойства. Таварыш кволы—магчыма ня вытрымае. Але вось яго ўводзяць у камэру поліцыянт. Таварыш увесь зьбіты, ня можа стаяць, наважваецца сказаць слова „бандыты“ і траціць прытомнасьць. Стыхійна ва ўсіх вырываецца заўзяты крык протэсту. Уваходзіць поліцэйскі. „Мы дамагаемся, каб праз 15 хвілін прышоў да зьбітага доктар і чакаем у працягу 5 хвілін адказу“. Поліцэйскі перапалохаўся—першы раз у гэтых сьценах чуюцца такія словы. Праз некалькі хвілін ён вяртаецца і іронічна паведамляе, што праз дзьве гадзіны прыдзе доктар. У нашай і суседняй камэры, дзе сядзяць маладыя работніцы, пачалася суматоха і крыкі: „Мы дамагаемся доктара!“ Поліцэйскі ізноў бяжыць да свайго начальства. Уваходзяць адзін за другім начальнікі і дамагаюцца ўціхаміраньня. У адказ на гэта—абурэньне яшчэ больш узмацняецца. Нарэшце поліцэйскі апавяшчае, што патрэбна ўзяць зьбітага таварыша, да якога, нібы-та, прышоў доктар. Мы абвяшчаем, што таварыша не дамо, а доктар няхай зараз-жа прыдзе да нас у камэру. Неўзабаве пасьля гэтага ўваходзяць яшчэ некалькі поліцэйскіх з рэвольвэрамі і шаблямі ў руках. Пачынаецца схватка. Мы не дазваляем падыходзіць да таварыша. Поліцэйскія аднаго з нашых таварышоў стукнулі рэвольвэрам па галаве, другога па назе, трэцяга павалтузілі за валасы. Пасьля доўгага змаганьня ім удалося вырваць таварыша і забраць з сабою. Нашае абурэньне яшчэ больш павялічылася. Мы кідаем пляшкамі, якіх каля дзесятку ляжыць у нашай камэры, у вокны. Шыбы ў дрызгі разьбіваюцца. Мы дамагаемся прыслаць камісара, каб напісаць протакол аб збойстве. Пасьля некаторага часу прыходзіць нарэшце камісар і адказвае нам: „Шкада, што поліцэйскія вас не расстралялі, як сабак“.

Незаўбаве пасьля гэтага прыводзяць назад таварыша. Дзякуючы нашаму пярэчаньню, яго на другім дазнаньні ня білі.

Усе здаволены. Перамаглі.

Няхай-жа моладзь, якая жыве на волі, згуртуе свае шэрагі і ўзмоцніць працу за нізрынуцьце буржуазнага ладу.

**Малады рабочы.**

Беластоцкі вастрог.

# Аркадзь-комсамолец.

(*Адрывак*)

Новыя песьні сьпявайма!
Новы складайма сказ!
Комсамольцы! Братва!
Слухай:
Песьню пяяю пра нас!

* * *

Ня з вёскі Аркадзь-комсамолец,
Вёскі ня бачыў ён,
Ў горадзе Менску радзіўся—
Камароўка-ж рабочы раён!

Радзіўся ў адным з перавулкаў,
У хаце бацькоў-рабочых.
Маці яго была прачка
Змалку. З гадоў дзявочых

Ў прачашні „Колас“ служыла,
Цёрла бялізну рукою,
Голад-нуду запявала
Песьняю сумнай сваёю;

Ой, вечар вечарэе,
Работніцы ідуць!
Маруся атруцілась,
Ў бальніцу павязуць!..

Вось яна й песьня тая,
Прачкі пяялі што,
Ёй-жа яна забаўляе
Сына, Аркадзьку свайго.
. . . . . . . . . . . . . .
Ну, а бацька яго рабочы,
Вечна ў фабрычнай духоце
Сочыць—машын даглядае
Вокам сьцямлівым. У ноце
Твар яго прості і грубы.
Песьні сьпяваць? Куды там!
Справай сваёй заняты
Бацька Аркадзькі—Адам...

* * *

Радзіўся Аркадзік у „пятым“
Годзе пажараў-віхур,
Ў годзе, які празваны
„Год рэволюцыі“, год бур...
Родзіць Аркадзьку маці,
Стрэлаў чутны раскаты*),
А бацька яго на вакзале...

Бацька крычыць: „Катам
Досыць крывёй упівацца!“
А вось раптам і чырвань-сьцягу
Прыпала на долю ўзьняцца.
Падняў яго сьмела рабочы,
Жыў рэволюц‘яй які,
З фабрыкі той, дзе Аркадзькі
Бацька рабіў—Якім.

Зьлез са стала прамоўца—
Месца занята другім.
— Слухай, уважліва слухай!—
Кажа Адаму Якім.

Слухае бацька Аркадзькі,
Дае веры сваім вушом...
А натаўп з адзінай марай,
А натаўп з адным нутром!
Момант. І здарылась нешта.
Нешта такое, што ўвесь
Натаўп людзей ўзварухнуўся,
Хваля бы ў моры плыве...

Раптам і чутка пранеслась:
— Едуць казакі на нас!
— Хлопцы! Адважна сустрэнем!
— Сіла на сілу! Ўраз!
Стрэлы пранесьліся дымам
Дый пачалася пальба...
Першым зваліўся прамоўца,
Кінуўшы ў натаўп: Урра!..

Падхапілі апошняе слова,
І гучэла яно соткі раз...
А казакі душылі, стралялі,
Дый і натаўп даваў адказ...
. . . . . . . . . . . . . .
А ў выніку гэтай „крамолы“—
Сьмяючыся агідна стаў
На пляцы адзін з поліцэйскіх:
Надзірацель Мікіта Лакалаў...

А вакол яго—соткі рабочых,
Ляжучы хто хоць, як бедакі...
Дый крывавыя плямы бруку—
Справа „вернай“ казачай рукі...
. . . . . . . . . . . . . .
Ну, а бацька дзе-ж Аркадзі?
Дзе схаваўся ад куляй ён?
Мо‘ забіты і ён на вакзале?
Мо‘ папаўся ў казачы палон?
. . . . . . . . . . . . .
Позна вечарам ў хату трапіў
З перавязкай Адам на назе
Дый Аркадзьку-сына ўгледзеў,
Дый матулю яго ў палазе...

І нічога ня кажучы жонцы,
Хлапчука прытуліў да сябе,
Прытуліўшы прамовіў з запалам:
— Я яго аддаю барацьбе!..

То былі для Аркадзіка ксьціны—
Наказ барацьбы гэты бацькін—
Прывялі да таго, што сёньня
Комсамольцам стаў Аркадзька!

С. Булатавец.

---

*) 31 (18) кастрычніка 1905 г. ў Менску на пляцы каля Віленскага вакзалу адбыўся т. зв. „Курлоўскі расстрэл рабочых“. Сабралася было да 15.000 чалавек, цэлы дзень адбываўся мітынг з прычыны „царскага маніфэсту“, урэшце, салдаты, атрымаўшы загад ад Курлова аб разгоне мітынгу, раптам пачалі страляніну па натаўпе. У выніку забіта па фактычных вестках звыш 50 чал., ранена некалькі сотак.

Рэдакцыя.

# ЛЬСКАЙ БЕЛАРУСІ.

## Жыцьцё моладзі сярод кулакоў і шляхты.

*Падлядзьдз Барадзішча, Масьціишча, рма, Шабуні і інш., Самахв авіцкага раёну, Возерскага сесавету.*

Вышэйадзначаны засьценкі – самыя глухія куткі Самах лавіцкага раёну. Ня гледзячы на то, то ўва ўсіх гэтых засьценках знойдз а больш як 600 душ насельніцтва, тут дзе няма школы, ня хаты-чытальні ніводнага „культурнага“ чалавека. Ёсць ў гэтых засьценках многа кулац элемэнту, які ў



Так было.

старыя часы нас „ганаровую“ назву шляхты. Сярод г й шляхты існуюць зае звычаі, свае гляды на ўсё жыцьцё і нельга сказа, каб яна была не ктыўна. Гэтая ктыўнасьць вельмі часта праяўляецца бязумоўна ў першую чаргу клад ца цяжкім адбіткам на маладое пак ньне, на юнакоў-хлапцоў і дзяўчат.

Вядома, шлях тая атмосфэра дуыць тут усё ж е, усё, што хоча думаць пасвойму рабіць пасвойму. Хоць трэба сказ, што сярод моладзі такіх мала.

Вечарынкі з му кай, скокамі, самаонам і іншымі пр жасьцямі, як бойкі, сваркі—запаўня увесь час гэтай моладзі.

Больш замож шляхта жыве толькі днаю думкаю:

— Калі прыдуць палякі і не дадуць бальшавікам зраб ь таго, што яны думаюць зрабіць іхняю зямлёю.

Абрэзкі сваіх рокіх палос яны баняцца, як агн ым-жа жыве і моладзь заможніцк і хоць бядняцкага элемэнту больш, нак ён вельмі несьвядомы і нідзе заяўляе аб сваіх крыўдах.

Дзеці беднаты сама ня выходзяць з рамак прапанов бацькамі й дзядамі. цягнуць ярмо ціску, ходзячы на надзённшчыну да аіх больш „шчасьлівых“ суседзяў-кулакоў.

Бываючы тут, чуваеш, як перад табою стаіць так маса, якую цяжка, мо й немагчыма пераканаць у тым, што яна мыліцца, алі думае, што так, як ёсьць і пра на, так і павінна быць.

Трэба комсамол скім ячэйкам Возе ці Крупіцы пачаць як найхутэй працу сярод оладзі гэтых засьценкаў. Гэтага ымагае сёньнешні дзень і гэтага на е моладзь-бедната.

**Веташок.**

## Шырыцца праца ячэйкі— расьце і сама ячэйка.

*Халопінская яч. ЛКСМБ, Барысаўшчына.*

У 1920 годзе ў м-ку Халопіна арганізавалася комсамольская ячэйка. Спачатку яна мела толькі 5 комсамольцаў.

Малая і маладая ячэйка надумалася наладзіць платны спэктакль.

Так і зрабіла.

За сабраныя грошы выпісалі газэт, купілі новых палітычных кніжак і інш. і збудавалі, хоць бедную, хату-чытальню.

Узяліся за працу. Вечарамі ў чытальні чыталі газэты, кніжкі, паладжвалі розныя сямейныя гульні. У дні адпачынку, хадзілі ў вёскі, дзе праводзілі сходы сялянскай моладзі.

Праз некаторы час ячэйка зарабіла пашану ад вясковай моладзі. Шэрагі яе пачалі папаўняцца новымі комсамольцамі.

Да 1923 году ячэйка ўжо мела 150 сяброў.

А ў 1925 г, Халопінская ячэйка зрабілася раённаю і цяпер налічвае ў сябе 400 комсамольцаў.

Пры ячэйцы працуюць гурткі: палітычны, сельска-гаспадарчы, драматычны, гурток вайсковых ведаў.

На заняткі гурткоў приходзіць і беспартыйная вясковая моладзь.

**Рыгор Жлобіч.**



Атрымаў часопіс.

## Настаўнікі разам з комсамольцамі.

*Хатаўнянская яч. ЛКСМБ, Журавіцкі р, Магілеўшчына.*

Настаўнік нашай вёскі вельмі добра жыве з нашымі комсамольцамі. Ён заўсёды прысутнічае на нашых гуртковых занятках і вытлумачвае ўсё тое, чаго мы не разумеем.

Апрача гэтага наш настаўнік кіруе двума гурткамі: сельска-гаспадарчым і агульна-асьветным.

Усе рэволюцыйныя сьвяты праводзяцца ў згодзе з настаўнікам і наогул у згодзе з школаю.

**Вясковы.**



## Местачковая ячэйка мала працуе сярод беспартыйнай моладзі.

*Астрашыцкі-Гарадок, Меншчына.*

Да чэрвеня месяца ў нашым мястэчку была адна ячэйка, у якой налічвалася 46 сяброў.

У чэрвені, па пастанове райкому, ячэйка была разьдзелена на 2 ячэйкі: адна пры райпрофбюро і другая пры сельсавеце.

Цікава адзначыць, што як разьдзялілася ячэйка, дык у ячэйку пры сельсавеце ўступіла да гэтага часу 11 сяброў і 1 кандыдат, а ў ячэйку пры райпрофбюро—ніводнага.

Гэта тлумачыцца тым, што наша сялянская ячэйка глыбока павяла ўсю сваю працу сярод сялянскай моладзі, дзе на сходах ячэйкі бывае па 20 і больш чалавек беспартыйнай сялянскай моладзі.

Ячэйка-ж пры райпрофбюро працы сярод беспартыйнай моладзі апіякай не вядзе. Сходы ячэйкі адбываюцца дзе-небудзь у глухім памяшканьні, дзе ніколі ніхто ня бывае.

А, між іншым, пры добрай пастаноўцы працы вытворчая ячэйка змагла-б у 2 разы больш набраць новых сяброў, як ячэйка пры сельсавеце, бо ў мястэчку больш цягне моладзь у комсамол, як на вёсцы.

Трэба, каб местачковая ячэйка зьвярнула ўвагу на сваю працу.

**Заслаўскі.**



Так будзе ўсюды.

## Парткіраўніцтва нашай ячэйкай.

*Якаўлевічы, Аршанская акруга.*

Раней у нас вельмі кепска было з парткіраўніцтвам. Комсамольцы зусім былі адарваны ад парт'ячэйкі.

Але з передачаю некаторых комсамольцаў у партыю—справа палепшала. Ня так даўно ўжо комсамольская ячэйка рабіла сваю справаздачу на сходзе партыйнай ячэйкі, дзе былі адзначаны недахваты ў працы і дадзены заданьні на далейшае.

Комсамольцы рады, што бачаць кіраўніцтва з боку старэйшых.

**Мяжэвіч.**

## Трэба ўзмацніць працу сярод дзяўчат.

*Менская акруга, Самахвалаўскі раён.*

У Сеньніцкай яч. ЛКСМБ маецца 30 сяброў, з іх усяго дзьве дзяўчыны. Гэтакі лік вельмі малы. Трэба пашырыць працу і ўцягнуць больш дзяўчат у комсамол.

**Я. Бор.**

## Наша вёска*).

Нашы хаты—наша вёска;
Там болота, тут палоска.
. . . . . . . . .
Людзі швэндалі бяз толку:
Хто ў царкву, а хто ў карчомку.
На багатых працавалі,
Самі-ж зімку галадалі.
Так было. Паны хацелі,
Каб ім—рай. А мы гібелі...
Нам Кастрычнік даў свабоду...
Мы, працоўныя, у згодзе...
На абшары панска поля
Завялі цяпер шматпольле.
А у вёсцы—клюб і школа,
Пяе новым ўсё наўкола.
У нашым краі зазіяла,
Цемра гіне—сьвет спазналі.
Усе ў працы згодна, шпарка
Падымаем гаспадарку.
Божай ласкі нам ня трэба:
У нас хваціць свайго хлеба.
І так зробім, што у сьвеце
Электрычнасьцю засьвецім.

**А. Акульчык.**

*) Першы верш вясковага хлапца-комсамольца Вароніцкай ячэйкі ЛКСМБ.

# Рэволюцыя 1905 г.

**Рэволюцыя 1905 г. была вялікім вопытам нашых правадыроў-рэволюцыянэраў у барацьбе 1917 году.**

**З 19 сьнежня гэтага году па 9 студзеня 1926 г. будзе праводзіцца сьвяткаваньне рэволюцыі 1905 г. і шырокае тлумачэньне сялянам і рабочым аб умовах, у якіх рэволюцыя рабілася, і аб самой рэволюцыі.**

**Сялянская моладзь таксама павінна быць добра знаёма з гэтаю рэволюцыяй. Раім уважліва прачытаць ніжэйдадзены артыкул.**

### Чаму ў 1905 годзе паўсталі рабочыя?

У 1905 годзе рабочыя і сяляне тагочаснай Расійскай імпэрыі першы раз уступілі ў рашучую барацьбу з царскім самаўладзтвам і з панаваўшымі тады клясамі: панамі і буйнымі капіталістымі.

Гэта была наша першая рабоча-сялянская рэволюцыя.

Чаго хацелі рабочыя і сяляне? Перш за ўсё волі, зьнішчэньня самаўладзтва. Затым сяляне хацелі захапіць панскую, царскую, царкоўную і манастырскую зямлю, а рабочыя — палепшыць сваё жыцьцё, дамагчыся лепшых умоў працы і ў першую чаргу 8-мігадзіннага працоўнага дню.

Да паўстаньня, да рэволюцыі рабочых і сялян штурханула іх пакутнае, цяжкае жыцьцё. Першымі паўсталі рабочыя. Яны былі застрэльшчыкамі рэволюцыі і да канца стаялі на чале ўсяго рэволюцыйнага руху.



1905 г. Рабочыя ідуць к цару.

Рабочая кляса ў Расіі існавала з даўных часоў. Але да самага вызваленьня сялян ад прыгоннай залежнасьці рабочыя нічым не адрозьніваліся ад прыгонных сялян—яны былі таксама прыгоннымі нявольнікамі.

Пасьля падзеньня прыгоншчыны стала хутка расьці прамысловасьць і гандаль.

Рос лік і рабочай клясы. Яна папаўнялася сялянамі, каторыя ад безьзямельля, ад цяжкага вясковага жыцьця ішлі прадаваць сваю працу ў горад. Да 1900 году рабочых у Расіі было ўжо больш за 5 мільёнаў.

Спачатку рабочыя думалі, што іх ворагі—толькі іх гаспадары. Супроць гаспадарскіх прыгнечаньняў яны зьвярталіся з скаргамі да паліцэйскіх прыставаў, да гораданачальніка, нават да насьледніка прастолу.

Але заўсёды ўлада была нязьменна на баку гаспадароў. І паступова рабочыя пачыналі разумець, што іх ворагі ня толькі гаспадары, але ўвесь самаўладны, дзяржаўны строй. Значыць, весьці барацьбу трэба ня толькі з аддзельнымі капіталістымі, а і за сталую перамену палітычнага, дзяржаўнага строю.

У 90-х гадох рабочы рух хутка вырастаў і дужэў, кожны год баставалі дзесяткі тысяч рабочых па ўсёй Расіі. Жыцьцё станавілася немагчымым, і ўсё больш зьвярэў царскі ўрад у расправах з рабочымі. Патрэбен быў толькі адзін моцны штурхач, каторы-б злучыў рабочых у адзін магутны струмень для барацьбы з самаўладзтвам.

Такім штурхачом зьявіўся дзень 9-га студзеня 1905 г., калі цар расстраляў пецярбурскіх рабочых, якія ішлі да яго з скрагамі на капіталістых.

Дзень 9-га студзеня стаў пачаткам усеагульнага паўстаньня рабочых, пачаткам рэволюцыі 1905 году.

### Чаму ў 1905 годзе паўсталі сяляне?

У 1861 годзе пала прыгоннае права. Сяляне сталі быццам-бы вольнымі. Сапраўды-ж гэта ня было вызваленьнем. Адмена прыгоннага права была зроблена так, што сяляне папалі з аднэй кабалы ў другую.

Пры надзеле сялян зямлёю ім не аддалі ўсёй той зямлі, якую яны апрацоўвалі ў прыгонных умовах. Частку, і прытым лепшую, сялянскае зямлі адрэзалі і аддалі паном. Сялянам была адведзена горшая зямля, ды і гэта адводзілася так, што яна межавалася з панскаю. Воляй-няволяй селянін павінен быў арандаваць у пана гэтую зямлю і плаціць яму вялікую арэндную плату.

Разам з тым за адведзеную сялянам зямлю яны павінны былі заплаціць дзяржаве выкуп, прычым выкупныя цэны ў многа раз (іншы раз удвойчы) перавышалі сапраўдны кошт зямлі. Так, к 1 студзеню 1900 г. сяляне пераплацілі выкупу больш за паўтара міліярда рублёў за зямлю, якая ў часе вызваленьня каштавала трохі больш 600 мільёнаў руб.

Пры гэтым селянін, нават той, які кідаў свой надзел, ніяк ня мог вызваліцца ад выплаты выкупу.

У гэтай выплаце сялянская грамада была зьвязана кругавой парукай. Пакуль не заплаціў выкупу, староста не даваў пашпарту. Акрамя выплаты выкупу на селяніна падала многа ўсякіх другіх падаткаў, якія цалкам глыталі ўвесь сялянскі прыбытак з зямлі і нават перавышалі яго. Жыць і плаціць падаткі селяніну станавілася ўсё цяжэй. Пры вызваленьні (у 1861 г.) на кожную сялянскую мужчынскую душу прыходзілася ў сярэднім каля 5 дзесяцін, а ў 1900 годзе, дзякуючы прыросту насельніцтва, гэты сярэдні надзел скараціўся ў два разы — да $2^1/_2$ дзесяцін.



1905 г. Мітынг.

Сялянства бяднела, гаспадарка падала, неўраджай ішоў за неўраджаем.

Разам з тым паступова ўтваралася расслаеньне сялянства: на заможных (кулакоў) і на сялянскую беднату.

У 1900 годзе без каня і з адным канём сялян было больш паловы (60 процантаў). З параю коняй—каля чвэрткі (22 процанты) і 18 процантаў мела шмат коняй.

Увесь цяжар падаткаў падаў, галоўным чынам, на плечы беднаты.



1905 г. Сяляне-паўстанцы.

Аб сялянскіх правох, цемры, несьвядомасьці і забітасьці, у якіх дзяржалі сялян цар і пан, няма чаго і гаварыць. Земскі начальнік, ураднік, поп—вось тройца, у рукі якой былі аддадзены сяляне.

Ці прабавалі сяляне змагацца з такім становішчам? Так, паасобныя „непарадкі“ (так абзывала царская ўлада сялянскія выступленьні супроць паноў) былі на ўсім працягу дзесяткаў год пасьля вызваленьня.

У 1902 годзе пачаліся буйныя сялянскія „непарадкі“. На месца „непарадкаў“ было выслана войска: сялян катавалі, кідалі ў турмы і аддавалі пад суд. У наступным, 1903 годзе, зноў загарэліся панскія сядзібы.

Так беднае, галоднае, бяспраўнае жыцьцё селяніна штурхала яго на паўстаньне, да рэволюцыі. У 1905 годзе рэволюцыйны рух сялян, у сьлед за рабочым паўстаньнем, абхапіў усю Расію.

### Руска-Японская вайна падштурхнула рэволюцыю.

Руска-Японская вайна прыблізіла прыход рэволюцыі 1905 году. Яна відавочна паказала сялянам грабіцельскую політыку царскага самаўладзтва.

Царскі ўрад меў надзею, што соткамі тысяч „шэрага быдла“ (рабочых і сялян) ён затопіць Далёкі Ўсход і зьнішчыць у вайне невялічкую Японію. Акрамя таго, і самая вайна для шайкі капіталістых, вялікіх князёў і паноў зьяўлялася вельмі карыснаю справаю: на адных падрадах і дастаўках у армію гэта шайка магла нажыць многа мільёнаў рублёў.

Царскі ўрад хацеў вайны з Японіяй і дамогся гэтай вайны. 5 лютага 1904 году вайна пачалася.

Але самаўладзтва вельмі памылілася ў сваім рахунку на лёгкую перамогу. Вышла зусім наадварот: агромністая руская армія, кепска падрыхтованая да вайны, галодная, слаба ўзброеная, якая кіравалася бясталентнымі гэнэраламі, цярпела адно паражэньне за другім.

К таму-ж у краіне пачаліся рэволюцыйныя паўстаньні. Каб разьвязаць сабе рукі для барацьбы з народам, цар заміріўся з Японіяю, зрабіўшы ёй шэраг уступак зямельных і грашовых.

Вайна яшчэ больш разбурыла бядняцкую сялянскую гаспадарку. Але гэта-ж вайна падштурхнула сялян да паўстаньня.

Партыя соцыял-дэмократаў (бальшавікоў) з самага пачатку ацэньвала вайну, як імпэрыялістычную, грабіцельскую.

Бальшавікі, на чале з Леніным, стаялі за аслабленьне ў вайне царскага самаўладзтва, дзеля таго, што гэта прыбліжала і рабіла лёгкую перамогу рабочых і сялян над самаўладзтвам.

У выніку вайны і паражэньняў царскі ўрад абудзіў да сябе вялікую ненавісьць народу і, як сказаў Ленін: *„усеагульную веру ў рэволюцыю“*, *„А ўсеагульная вера ў рэволюцыю“*,—дабаўляў ён, —*„ёсьць ужо пачатак рэволюцыі“*.

І ён быў праў: пачатак рэволюцыі прыпаў з самымі большымі паражэньнямі самаўладзтва ў вайне.

### Пачатак рэволюцыі.

Дзень 9-га (22) студзеня па справядлівасьці лічыцца пачаткам першай рабоча-сялянскай рэволюцыі. Што адбылося ў гэты дзень? Пецярбурскія рабочыя з жонкамі і дзецьмі, на чале з папом Гапонам з протэстамі, абразамі і царскімі портрэтамі пашлі да Зімняга Дварца, каб падаць цару просьбу аб паляпшэньні іх жыцьця. Цар паглядзеў на ход рабочых, як на бунт, і хацеў раз назаўсёды адбіць у рабочых ахвоту да бунтоў. Па вестках тагочасных газэт, у гэты дзень было забітых і параненых рабочых ня менш 4600 чалавек. І на другі і на трэці дзень цягнуліся стычкі грамады з войскам і паліцыяй.



1905 г. Вобыск у кватэры рабочага.

9-га студзеня была расстраляна вера самых адсталых рабочых у цара. Цяпер нішто не магло адцягнуць рабочых ад рэволюцыйнай барацьбы з самаўладзтвам. Соцыял-дэмократычная партыя стала яго кіраўнікам у гэтай барацьбе.

Царскі расстрэл 9-га студзеня ўскалыхнуў і ўсю рабочую Расію. Вось дзеля чаго гэты дзень зьяўляецца па праву першым днём першае рабоча-сялянскае рэволюцыі ў Расіі.

### Рэволюцыйная хваля падымаецца.

Гром стрэлаў 9-га студзеня прагучэў па ўсёй тагочаснай Расіі: усюды, як толькі рабочыя даведваліся аб пецярбурскіх падзеях, яны выказвалі спачуваньне сваім братом новымі й новымі забастоўкамі. Акрамя дамаганьняў эканомічных (п а м я н ш э н ь н я рабочая дню, павялічэньня зарплаты і др.) рабочыя-забастоўшчыкі высоўваюць дамаганьні і політычныя, аж да скліканьня ўстаноўчага сойму.



1905 г. Ахвяры рэволюцыі.

Забастовачны рух прадаўжаў расьці і захватваў усё новых, найбольш адсталых рабочых.

Пачынаюць баставаць у розных гарадох булачнікі, пекары, грузчыкі, вазьніцы і нават хатняя прыслуга. Забастоўкі паступова абхаплялі ўсю Расію, нават самыя глухія месцы. Царскі ўрад пазьверску распраўляўся з забастоўшчыкамі. Казакі расстрэльвалі рабочых у Адэсе, Лодзі, Беластоку. Але расстрэлы не маглі прыпыніць росту рабочай забастовачнай хвалі. Яна падымалася ўсё вышэй, станавілася больш грознаю, пакуль у кастрычніку 1905 г. не зрабілася ўсеагульнаю забастоўкаю.

Амаль адначасна з рабочымі забастоўкамі пачаўся і сялянскі рух. Вёска, прыгнечаная безьзямельлем, квапнасьцю паноў, разбураная вайною, так самапачала паўстаньне супроць паноў.



1905 г. Павешаныя рэвалюцыянэры.

Сялянскія паўстаньні пачаліся ў лютым 1905 г. і паступова, то ўціхаючы, то зноў разгараючыся, сялянскі рух к восені разьліўся па ўсёй Расіі.

Сяляне рабілі напады на панскія сядзібы, забіралі хлеб, выганялі жывёлу, палілі панскія палацы. Такім шляхам сяляне спадзяваліся выкурыць паноў з іх наседжаных гнёздаў. Дзе сяляне жылі арэндаю зямлі, яны самачынна засявалі зямлю паноў, адмаўляліся плаціць арэнду. Там, дзе сяляне працавалі ў пана падзённа, яны па прыкладу гарадоў рабілі забастоўкі, дамагаліся павышэньня падзённай платы. Баставалі батракі і дробныя арандатары. У агульным, з студзеня па сакавік сялянскім рухам было абхоплена 85 паветаў, улетку—104 паветы, а ўвосень па сьнежань—261 павет, гэта ёсьць больш паловы ўсіх паветаў Расіі. Царскі ўрад пазьверску распраўляўся з сялянскім рухам. Казацкі бізун і драгунская шабля гулялі па сялянскіх сьпінах.

Ня гледзячы на ўсю шырыню сялянскіх паўстаньняў, у іх быў адзін недахват: у сялян ня было палітычнай сьвядомасьці. Яны, як раней рабочыя, за панамі ня бачылі галоўнага ворага—самаўладзтва. Дзеля гэтага сялянскія паўстаньні ішлі разрозьнена, сяляне ня ўмелі, ня ведалі, як і навошта арганізавацца, а галоўнае—не змаглі свайго руху зьвязаць з рэволюцыйным горадам. Усё-ж такі к восені 1905 году ў барацьбе з царом сялянскі рух зрабіў рабочым значную дапамогу і прымусіў самаўладзтва пайсьці на ўступкі рэволюцыі.

### Чаму рэволюцыя 1905 году была разьбіта?

Чаму першая рабоча-сялянская рэволюцыя была разьбіта і перамога засталася на баку цара?

Першая і галоўнейшая прычына гэта тое, што *ў барацьбе з самаўладзтвам рабочыя і сяляне не пасьпелі аб'яднацца ў моцны рэволюцыйны саюз.* Рэволюцыйная сьвядомасьць рабочых хутка вырасла, а цяжкае жыцьцё кінула іх на барацьбу з самаўладзтвам у той час, калі рэволюцыйная сьвядомасьць сялян толькі марудна, мала-па-малу пачала абуджацца.

Праўда, яшчэ з вясны 1905 году сялянства пачало барацьбу з панамі, і гэта барацьба не перарывалася, а йшла адначасна з рэволюцыйнаю барацьбою рабочых. Але бяда ў тым, што сяляне не разумелі яшчэ тады, што для зьнішчэньня панаваньня паноў трэба скінуць іх галоўкі—царскае самаўладзтва.

Сялянскі рух быў не організованым; ён не аб'яднаўся ў адзін магутны струмень, а ішоў у баку ад рабочага руху.

Толькі ў 1906 годзе, навучаныя горкім вопытам, расстрэламі і арыштамі, сяляне зразумелі, нарэшце, што самаўладзтва іх галоўны вораг і яны сталі ўважліва прыслухоўвацца да слоў левых партый і пасылаць у дзяржаўную думу левых дэпутатаў. У 1906 годзе з новай сілай падняўся і рэволюцыйны рух сялян супроць паноў. Але без падтрыманьня ўжо разьбітых рабочых гэты рух быў за душаны і заліты сялянскаю кроўю.

Гэткая першая прычына паражэньня: няспеласьць рэволюцыйнае сьвядомасьці сялян, адсутнасьць спайкі ў рабоча-сялянскім руху.

Другая прычына паражэньня—у тым, што *сярод рэволюцыйных партый толькі бальшавікі яскрава разумелі неабходнасьць збройнага паўстаньня і неадступна рыхтавалі да яго народ. Меншавікі, наадварот, баючыся сполохаць буржуазію, аслаблялі ролю рабочых да паўстаньня.*

Трэцяю прычынаю зьяўляецца *здрада буржуазіі справе рэволюцыі.* Бальшавікі прадбачылі гэту здраду. Так і адбылося. Спачатку буржуазія, нездаволеная царскім самаўладзтвам, хацела конституцыі, хацела абмежаваць самаўладзтва, каб самой стаць на чале ўлады. Але з ростам рэволюцыі яна перашла ў лягер цара. Яна сполохалася сапраўднай народнай рэволюцыі і народных дамаганьняў. У часе ўзброеных паўстаньняў у гарадох буржуазія была цалкам на баку самаўладзтва і дапамагала царскім палачом задушыць паўстаньне.

*Наша буржуазія перацягнула на бок цара і пазамежную буржуазію.* У гэтым—чацьвертая прычына паражэньня рэволюцыі.

Каб задушыць рэволюцыю, цару патрэбны былі грошы. Вайна апустошыла царскую казну, а ў часе рэволюцыі сталі кепска паступаць прыбыткі ад народу. Самаўладзтву пагражала банкроцтва. Ад гэтага банкроцтва і выратавала цара пазамежная буржуазія, якая дала яму многамільённую пазыку.

Чаму пазамежная буржуазія падтрымала цара? Папершае, дзеля таго, што ў Расію многа было ўложана раней капіталаў, і буржуазія баялася, што калі пераможа рэволюцыя, гэтыя капіталы прападуць. Падругое, дзеля таго, што самаўладзтва дапамагала пазамежным капіталістым нажываць вялікія барышы на рабаваньні рускага народу, на таннай плаце за працу рабочых і сялян. І патрэцяе, пазамежная буржуазія баялася, што руская рэволюцыя перакінецца і ў іх краіны.

Вось галоўнейшыя прычыны таго, што ў вялікай барацьбе з народам перамог цар.

**І. Ф.**

# З архіву.

## Старонка проклямацый, лістоў і докумэнтаў з часоў рэволюцыі 1905 году.

### Проклямацыя 1905 году.

*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

Сяляне! Вы лічыцеся вольнымі людзьмі, а на справе жывеце вы ў цяжкай няволі, і ваша жыцьцё горш катаржнай няволі.

Вы зьбяднелі. Вы паміраеце з голаду. Вам няма дапамогі. Ваша зямля родзіць усё горш і горш, а выдаткі растуць.

Вас душаць падаткам. З вас выціскаюць апошнюю капейку. На вашыя грошы жывуць рабаўнікі-чыноўнікі,—ад цара да поліцэйскага стражніка, а самі вы гінеце ў цяжкай патрэбе.

Вашым потам і крывёй кормяцца памешчыкі. На іх працавалі бацькі вашыя, дзяды пры паншчыне. Канец прышоў паншчыне, але няволя засталася. Царскі ўрад аддаў паном вашую зямлю, і цяпер вы працуеце на іх ня менш, чымся вашыя бацькі.

Над вамі зьдзекуюцца царскія чыноўнікі. Вас і лае і саджае пад арышт усякае начальства, і вам няма дзе шукаць на іх суду і расправы.

Царскі ўрад можа толькі рабаваць і нішчыць. На вашыя грошы ён вядзе вайну з Японіяй, вашая кроў ліецца рэчкай на палёх Манчжуры. А вайна нікому не патрэбна, яна прынесла народу толькі горкую патрэбу.

І ўсё ад таго, што няма волі народу. Патрэбна, каб народ сам вырашыў свае справы праз выбарных людзей. Трэба, каб народ сам абіраў свой урад і каб гэты ўрад распараджаўся не самаўпраўна, а выконваў волю народу.

Царскія слугі баяцца таго, каб вы не зразумелі праўды. Яны стараюцца вас абдурачыць. Яны кажуць, што ва ўсім вінаваты яўрэі.

А ці-ж яўрэі наладзілі вайну? Ці-ж яўрэі робяць мобілізацыі і пакідаюць без дапамогі тысячы сірот і ўдоў? Ці-ж яўрэі аддалі памешчыкам вашую зямлю? Ці-ж яўрэі і ўсё ваша начальства? І ці-ж яўрэі ня гэтак сама церпяць і ад вайны, і ад поліцыі, і ад рознага іншага начальства?

Царскія слугі сумысьля жадаюць захаваць ад вас праўду. Царскія слугі—вашы страшэнныя ворагі.

Нашы браты, рабочыя ў гарадох, даўно зразумелі ўжо, хто вораг ім, хто прыяцель. Яны паўсталі супроць царскага ўраду. Яны патрабуюць, каб улада належала народу, а не цару і яго чыноўнікам-казнакрадам.

Расійцы і яўрэі, палякі і армяне—усе рабочыя, як браты, аб'ядналіся і змагаюцца за сьвятую справу. Яны патрабуюць, каб ураз-жа былі скліканы абраныя народам прадстаўнікі і каб гэтыя прадстаўнікі сталі кіраваць дзяржавай. Рабочыя пралліваюць за гэта сваю кроў ва ўсіх гарадох Расіі.

Пачынаюць паўставаць і сяляне.

Час і вам паўстаць супроць вашых крывапійцаў. Час далучыцца да рабочых і разам з імі заваёўваць свабоду.

Скідайце ярмо царскай улады.

Паўставайце! Выходзьце супроць вашых памешчыкаў-дармаедаў, супроць чыноўнікаў-ліхаедаў, супроць усіх, хто вас прыгнятае і рабуе. Паўстанце за сьвятую справу. Змагайцеся шчыльна за свабоду. А калі царскія слугі нанова абвесьцяць мобілізацыю і нанова пачнуць заклікаць вас у бойку—ня йдзеце, недавайцеся ў рукі. Лепш памерці тут за свабоду, чымся дзесьці далёка бяз мэты і сэнсу.

Прэч самадзяржаўе!
Прэч вайну!
Няхай жыве кіраўніцтва народу!

**Група сялян-дэмократаў.**
*(Невель)*

*Сакавік—1905 г.*

### Тэлеграма магілеўскага губарнатара ў дэпартамэнт поліцыі.

Прошу содействия скорейшему разрешению вопроса размещения сотни казаков. Положение Копысского района принимает острый характер.

**Губернатор.**

### Сакрэтны ліст аднаго з памешчыкаў Магілеўшчыны--правадыру дваранства.

**Многоуважаемый Владимир Иванович!**

Очень рад, что, повидимому, администрация обратила наконец внимание на Копысь и Сметанку. Центром движения около меня является кафельный завод в Сметанке, который в аренде у Песельника по домашнему условию. Рабочие там организованы умелой рукой и целой толпой человек в 50 приходили сгонять моих рабочих с поля, а теперь, когда главные полевые работы—при огромных убытках поневоле прекращены. Те-же фабричные не позволяют даже сгонять крестьянский скот с моего поля.

Мне представляется поэтому крайне желательным в интересах не только моих, но и всей окрестности, закрытия завода не менее, чем на год. Конечно для этого необходимо участие г. Губернатора.

С истинным почтением преданный

**Л. Чачков.**

*17 мая 1905 г.*

# „Рапарт“.

*Секретно.*

**Его Превосходительству Господину Витебскому Губернатору.**

**Велижского Уездного Исправника**

Вчера, 4 ноября, около 11 часов дня крестьяне одиннадцати деревень Узковской волости числом более 200 человек явились в имение Рындино, принадлежащее Ковецкому (расстояние от ф. Пудоть 41 верста, от м. Усвят 18 вер. и от г. Велижа 57 верст) и управляющему этим имением Соколову пред'явили следующие требования:

1. Все обрезы земли им. Рындино должны поступить в собственность крестьян безвозмездно на том основании, что, уплачивая ежегодно за обрезы аренду, они, крестьяне, считают эту землю выкупленной. 2. Пастбище скота должно быть свободно по всему имению Рындино. 3. Свободный отпуск леса и дров по следующей таксе: строевой на расстоянии 2 аршин от земли по 2 копейки за вершок толщины, кубическая сажень березовых и ольховых дров по 25 коп. и осиновых по 15 коп. 4. Экономия им. Рындино не имеет права продавать постороннему ни леса, ни дров. 5. Не имеет права держать лесных сторожей. 6. Арендаторы экономических фольварков должны быть удалены и земельная площадь фольварков поступает под лес. 7. Экономии оставляется для собственного пользования все те обработанные земли, которыми она пользуется в настоящее время, но при том условии, что сдавать эти земли в аренду она не имеет права. Руководителями собравшейся толпы были крестьяне Узковской волости, деревни Альшуты—Прохор Игнатьев, Трофим Михайлов и Зиновий Горбаченко, которые с толпою крестьян явились затем к приказчику купца Копеня Перельштейна, купившего лес в им. Рындино—еврею Шецеру и заявили ему требования, чтобы Шецер никому не смел давать талонов на рубку леса из купленной дачи. Благодаря тому, что в им. Рындино была послана полурота солдат, со стороны крестьян насилия не было и крестьяне заявили, что они прибудут за ответом чрез две недели и какой-бы ни был результат их требований—они приступят к рубке леса. В ф. Пудоть пока спокойно, но крестьяне 3-х волостей: Казаковской, Усвятской и Будницкой имеют прибыть в им. Пудоть в воскресенье 6-го сего ноября; намерения их неизвестны, но они по полученным сведениям будут вооружены. Пристав 4 стана послан мною в Рындино и ему поручено производство по делу дознания . В воскресенье вечером, если в ф. Пудоть ничего не произойдет, я направляюсь в Узковскую волость для совместного с Земским Начальником Воиновым принятия мер убеждения и нравственного воздействия на крестьян к сохранению неприкосновенности чужого имущества. В ф. Пудоть для несения полицейских обязанностей командирован столначальник Полицейского Управления Сочивко. Сегодня получены сведения об угрозах крестьян приступить к рубке леса в им. Бриждноль, принадлежащем Кольку; это имение расположено в расстоянии 4 верст от Суража и 22 верст от ф. Пудоть. Туда на случай надобности мною будут посланы казаки.

Об изложенном доношу Вашему Превосходительству.

Уездный Исправник **Чилиненок**.

# Дзед рассказаў нам пра стачку.

Аднойчы ўлетку пасучы коні комсамольцы завялі гутарку пра рэволюцыю, пра ранейшае жыцьцё.

— Ось, вы кажаце тое да гэтае... Паслухайце лепш мяне: я больш за вас на сьвеце пажыў, больш усяго бачыў,—прагаварыў Піліп, чалавек гадоў пад сорак.

— Слухаем... Слухаем, дзядзька. Кажыце!—адгукнуліся хлопцы й бліжэй падсунуліся да старога. Ён пачаў.

— Вось, дзе мы цяпер пасем коні, тут некалі была, як вы кажаце, „стачка“. Пан маёнтку мала плаціў за працу—за дзень залатоўку.

Вось тут-то наша „дэмократыя“ і ўздумала ўстроіць забастоўку.

„Ня йсьці на работу!“—агітавалі яны грамаду.

... Час цячэ, а пан і ня думае здавацца.

Цераз некалькі дзён прыяжджае к нам з Слуцку конная поліцыя.

... Чалавек дзесяць. І... чаго прыехалі, за тое і узяліся... выганяць людзей на работу.

... Пачалі сьвістаць бізуны. І вось уся грамада вёскі акружыла, значыць, гэтых „гасьцей“ каля царквы і давай пушчаць каменьнямі ў іх значыць. Поліцыя, апусьціўшы нос, завярнула аглоблі назад. Мы ўжо думалі нашае возьме, але вышла ня тое. Спусьціўшы дзён тры, наехала гэтых чарцей яшчэ больш, як тады. Ім ужо было дазволена страляць проста ў людзей. На гэты раз усе пахаваліся.

— Ня было самага галоўнага: еднасьці,—перарваў комсамолец Кастусь.

— У гэтым-жа ўся наша й бяда,—сказаў другі.

Піліп канчаў: І вось пачалі лавіць, значыць, гэтых „дэмократаў“. Тады арыштавалі больш дваццаці чалавек. І парассылалі: каго ў турму, каго ў Архангельск.

Дык вось як даставалася гэтая зямля, на якой мы так свабодна „гуляем“ цяпер.

З таго часу ўжо прашло дваццаць год, а мне здаецца, як гэта было ўчора.

Гэтым дзядзька й скончыў сваю гутарку пра „стачку“.

А цяпер: цяпер зусім другое. Маёнтак, які „ішоў“ у тоўстае пуза пану, цяпер корміць дзьве вёскі й пасёлак. А ў нашай вёсцы ёсьць розныя гурткі, існуе коопэратыў і ў апошні час—комсамольцы, праваднікі новых ідэй і звычаяў на вёсцы.

Цяпер і „басякі“, як звалі раней беднату, пачынаюць абзаводзіцца гаспадаркаю.

**М. Лубок.**

Случчына.

# Як царскія каты расправіліся з сялянамі ў вёсцы Сямёнаўка.

Рэволюцыйны рух у вёсцы Сямёнаўка, Калініскае акругі, пачаўся з чытаньня падпольнай літаратуры, якую дастаўляў Лазар Васілеўскі — найбольш пісьменны чалавек гэтай вёскі. Неўзабаве пачалі наладжваць мітынгі. Сходы адбываліся ў лесе, а часамі на хутары за дзьве вярсты ад вёскі Сямёнаўкі, дзе жыў лясьнік. Дазваляли быць на сходзе, галоўным чынам, дарослым, але была і моладзь. Каб ня выклікаць падазронасьці, Васілеўскі заўсёды браў з сабою гармонік.

У 1905 годзе, калі абвешчана была свабода, моладзь пад кіраўніцтвам Васілеўскага, Якуба Старавойтава ды інш. пачала наладжваць на вёсцы маніфэстацыі з чырвонымі сьцягамі і са сьпевамі рэволюцыйных песень.

Аб гэтых маніфэстацыях поп Бутома данёс земскаму начальніку Чалоўскаму. Апошні зьявіўся ў вёску якраз тады, калі група моладзі была на гурткавых занятках. Убачыўшы земскага, хлапцы разьбегліся. Хутка пасьля гэтага ў Сямёнаўку зьявіўся карны атрад, які складаўся з 40 чалавек драгун, 18 стражнікаў і жандараў пад кіраўніцтвам самога земскага начальніка ды прыстава. Сяляне спаткалі іх з хлебам ды сольлю. Пачуўся загад: „Шапкі зьняць ды стаць на калені!“

І трыста чалавек прастаялі на каленях на сьнягу 5 гадзін. Дзесяцкага Ядзіма Даніленскага і старасту Уласа Даніленскага пры выпытах лупцавалі бізуном, у старасты палову барады выдралі, але адказу, дзе Лазар ды ўсе іншыя, што схаваліся, не атрымалі.

Стражнікі наламалі ляску ды сталі ў два рады. Потым пачалі праганяць сялян скрозь гэтых радоў ды люта білі іх кіямі і прыкладамі стрэльбы. Праганялі ўсіх разоў пяць. Твары шмат у каго былі акрываўлены, не хапала зубоў, сьпіны былі спаласаваны.

Потым пачалося катаваньне: здымалі боты, паскідалі штаны, кідалі голага на сьнег і лупцавалі. Палкі ў катаў парабіліся на шчэпачкі. Сьнег пачырванеў ад крыві.

Драгуны ў часе ўсяго гэтага ганяліся за дзяўчатамі, лавілі хатнюю жывёлу, забіралі палотны і інш. Такія самыя расправы над сялянамі рабіліся ў цэлым шэрагу вёсак: у Халдзеўцы, Царковішчы ды інш. У Царковішчы спалілі нават некалькі хат, дзе адбываліся сходы. Так старанна душылі „крамолу“ і баранілі памешчыкаў ды цара іхныя вернападданыя служкі.

Насельніцтва было так тэрорызавана, што некаторыя цэлыя месяцы бадзяліса па лясох, хаваліся па гумнах. Больш выдатныя працаўнікі, як Сяргей Васілеўскі, Лазар Васілеўскі, Стафан Пруднікаў, мусілі зусім пакінуць родную краіну. Два апошнія ўцяклі аж у Амэрыку.

**І. Пруднікаў.**

# Сьвяткаваньне Кастрычніка.

## За межамі СССР.

Нашы закардонныя браты—комсамольцы, партыйцы, рабочыя, рэволюцыйнае сялянства і інш.—загадзя рыхтаваліся да ўшанаваньня 8 угодкаў Кастрычнікавае рэволюцыі і, ня гледзячы на ўсе перашкоды, якія чынілі ім поліцэйскія і буржуазны ўрад, гэты вялікі дзень шмат дзе прашоў з вялікаю ўрачыстасьцю.

Напрыклад, у Варшаве і іншых гарадох Польшчы 8 лістапада былі вывешаны ад імя компартыі і комсамолу шматлікія чырвоныя сьцягі з рэволюцыйнымі надпісамі. Паўсюды распаўсюджваліся комуністычныя лістоўкі, у сувязі з чым заарыштавана шмат рабочых.

А ў Бэрліне (Нямеччына) з прычыны восьмае гадавіны Кастрычнікавае рэволюцыі ў поўнамоцным прадстаўніцтве СССР быў наладжаны ўрачысты прыём.

Такі-ж самы прыём адбыўся ў поўнамоцным прадстаўніцтве СССР у Пекіне (кітайская сталіца). Шматлікія кітайскія організацыі—грамадзкія, політычныя і асьветныя—прыслалі сваіх прадстаўнікоў на гэты прыём. Імі былі падараваны прадстаўніцтву сьцягі, плякаты і малюнкі з надпісамі і лёзунгамі. Расійскія і кітайскія супрацоўнікі савецкіх устаноў у Пекіне наладзілі сьвяткаваньне, а таксама адчынілі новы клюб, які названы ім. т. Фрунзэ.

Кастрычнік адзначаўся і яшчэ шмат дзе. Прамоўцы на мітынгах, дзе яны былі, адзначалі, што расійскае 7-ае лістапада нясе вызваленьне працоўным усяго сьвету.

# На вёсцы.

**Дукорскі сельсавет.**

*Сьмілавіцкі раён, Меншчына.*

За некалькі дзён да сьвята як організацыі, так і сялянства выконвалі падрыхтоўчую працу. Былі хараша аздоблены клюб і хатачытальня.

6 лістапада з Менску прыехала 12 чалавек ад шэфа і прывезьлі літаратуры і плякатаў. У гэты-ж дзень у Дукорскім клюбе быў зроблены даклад аб гісторыі Кастрычніка. На дакладзе прысутнічала ўся моладзь і шмат старых.

7 лістапада ў дзень у м-ку Дукора адбылася дэмонстрацыя, у якой прымалі ўдзел: сяляне, партыйцы, комсамольцы, піонэры, вучні і іншыя організацыі. Увечары быў наладжаны спэктакль.

Рабочыя саўхозу Дукора, каб лепш адзначыць сваё вялікае сьвята, наладзілі сяброўскую вечарынку. На гэту вечарынку яны запрасілі па 2 чалавекі з кожнай вёскі.

З вялікім пад'ёмам адсьвяткавалі Кастрычнік сяляне вёскі Харавічы. Яны ў гэты дзень рабілі адчыненьне школы, якую самі збудавалі з ранейшага панскага палацу. Усе былі з бадзёрым і радасным выглядам. Была паслана прывітальная тэлеграма ЦВК і ЦК КП Беларусі.

У вёсках Жораўка і Турэц побач з дакладамі дэмонстравалася кіно-фільма, якуе прывезьлі шэфы.

Агулам Дукорскі с. с. правёў Кастрычнік добра.

**Ц. Абразоўскі.**

**В. Крушынаўка.**

*Рагачоўскі р., Бабруйшчына.*

Моладзь нашай вёскі яшчэ за тыдзень да Кастрычніка пачала рыхтавацца да праўдзеньня яго. За гэты час была падрыхтавана да пастаноўкі п'еска з „Маладога Аратага"—„Вугольчыкі Рэволюцыі", а таксама было праведзена некалькі чытак літаратуры пра Кастрычнік. На чытках прысутнічала шмат моладзі, асабліва дзяўчат.

Самы дзень Кастрычнікавай рэволюцыі —7-га лістапада—прашоў з комсамольскім запалам. Па ўсёй вёсцы чуліся комсамольскія сьпевы і несьліся кудысьці далёка.

**Я. М. Савіцкі.**

# У Менску.

З самай раніцы 7 лістапада ў горадзе вялікае ажыўленьне. Паплылі са сьцягамі рабочыя калёны і вайсковыя часьці.

Гукі аркестраў і рэволюцыйных сьпеваў дрыжаць у паветры. Кідаюцца ў вочы зялёныя гірлянды, лёзунгі, портрэты пролетарскіх правадыроў на бальконах, вокнах і сьценках дамоў.

Каля паўдня на пляцы Парыскай Комуны з заходняга боку стала праходзіць цэрэмоніяльным маршам многалюдная дэмонстрацыя, у якой прынялі ўдзел профсаюзы, партыйныя прадстаўнікі, чыгуначнікі, студэнты, вучні і г. д.

Дэмонстрацыю прапускалі члены ЦК, ЦКК, ЦВК, ЦСПСБ, акружком КПБ і КСМ, акругвыканком і прадстаўнікі вайсковых організацый.

Рабочыя, жанчыны, комсамольцы і чырвонаармейцы стройнымі шэрагамі пад гукі маршу стройна праходзілі праз паўднёвы выхад плошчы.

Дэманстрацыю віталі т. т. Крыніцкі, Адамовіч, Ендакоў, Гэсэн, Сьцяпны і інш.

Калышуцца прыгожа сьцягі. Магутнае „ура" прарэзвае паветра.

Рэдактары: А. Самахвалаў. Іл. Барашка.

1-я дзярж. друк. Зак. № 537—(1200). Галоўлітбел 13.941.

## Аб працы сярод нашых юнкораў.

Наша часопісь сялянскай моладзі „Мал. Араты“ вакол сябе налічвае пастаянных сваіх юнкораў (а наш юнкор кожны той, хто піша і распаўсюджвае „Мал. Араты“) толькі сотню чалавек, што ў сярэднім складае: 10 юнкораў на акругу, або 1 юнкор на кожны раён.

Прычынамі такога малога ліку юнкораў можна лічыць наступныя тры: п е р ш а я—гэта частыя напады і забойствы старых селькораў кулаччом і пагрозы бацькі сыну-юнкору нават выгнаньнем з хаты; д р у г а я—малы (за адсутнасьцю месца) лік зьмяшчэньня допісаў пра жыцьцё самой вёскі і наогул пра вёску з яе ўсімі недахватамі і заганамі, і т р э ц я я—адсутнасьць шырокіх захадаў з боку самой рэдакцыі па ўцягненьні пісьменнай моладзі ў лік сваіх супрацоўнікаў.

Гэта трэцяя прычына, хоць мною пастаўлена апошняю, але яна мабыць самая галоўная. (Цікава-б ведаць думкі юнкораў?). Цяпер моладзь убачыла, што за тых, хто супрацоўнічае ў друку, савецкая ўлада, як кажуць, гарою стаіць, і ёй няма чаго баяцца нападу. Таксама разумее і тое, што кожная маленькая заметачка, пасланая ў рэдакцыю, хоць яна і ня зьмешчана, выкарыстоўваецца і мае вялікае значэньне.

Справа за працаю самой рэдакцыі.

Раней усю працу з сваімі юнкорамі рэдакцыя выконвала праз лісты і паштовую скрынку, і толькі калі сам юнкор прыяжджаў у рэдакцыю, гэта праца набывала сабе больш шырокі выгляд. Пры такой працы—далёка не заедзеш.

У далейшым трэба, каб рэдакцыя большую частку юнкораў ведала ня толькі па лістох і допісах—шмат шырэй. Хоць гэта цяжка прарабіць (няма грошай на выезды ў вёску), але-ж гэта патрэбна. Бяз гэтага юнкор ня зможа прарабіць тае работы, якая ўскладзена на яго—яго грамадзкаю сьвядомасьцю. А толькі праз лісты і рэдакцыя мала дапаможа, бо, ня ведаючы тае асобы, якой ты хочаш пісаць ліст, і ня ведаючы тых умоў, у якіх яна жыве,—ня вельмі здавальняюча і напішаш.

Вялікую карысьць у справе паляпшэньня часопісі робяць гурткі „Малады Араты“. З прыходам восені рэдакцыя ўзялася за працу па ўтварэньні такіх гурткоў. Вынікі ўжо ёсьць. У гэтых гуртках моладзь будзе вучыцца пісаць допісы і заўважваць недахваты ў часопісі. Моладзь павінна ўваходзіць у гэтыя гурткі.

Вядома, у гэту зіму рэдакцыя „Малады Араты“ разгорне шырокую працу па ўцягненьні моладзі ў свае супрацоўнікі, але моладзі ня трэба чакаць да таго, а самой брацца за паляпшэньне сваёй часопісі.

**З. Паваротны.**

## Аб чым і як пісаць у часопісь сялянскай моладзі „Мал. Араты“.

1. Раней, чым што-небудзь пісаць, пастарайся адшукаць тэму. А калі яна ў цябе ёсьць, дык харашэнька падумай над наступным: ці цікавіць гэта тэма, ці гэты факт, самога цябе, ці будуць цікавіцца ім хлапцы і дзяўчаты другіх вёсак, ці можна на гэтай карэспондэнцыі, калі яна будзе зьмешчана, навучыцца ў працы і інш.

2. Абмазгуй, чым гэты факт выклікан, хто прымаў у ім удзел і пры якіх умовах ён адбываўся. Калі ўсё гэта для цябе стане ясным—пішы.

3. Старайся пісаць проста і зразумела, як быццам ты апавядаеш сваім таварышом. Зрабі сваю карэспондэнцыю такою, каб чытач уявіў малюнак твайго факту.

4. Пажадана пісаць на адным баку паперы, але можна пісаць і на двух. На адным баку паперы трэба пісаць таму, што ў друкарні ў часе набору твой другі бок запэцкаецца і наборшчык гатоў не заўважыць і не набраць. Кожны допіс пішы на асобнай паперцы. Пад кожным допісам апрача таго прозьвішча, ці імя, якое ты хочаш, каб было надрукована, падпісвай і правільны свой адрас: імя, прозьвішча, паштовае аддзяленьне, вёску, акругу. Калі грошай няма—пасылай бяз маркі.

5. Як што-небудзь здарылася, ці ў сваім жыцьці ты знашоў добрую тэму,—заразжа сядай і пішы. Не затрымлівай допісаў, бо яны гатовы спазьніцца. Зараз у нас пераход ад лета да зімы. Пішы ўсё, што зьвязана з гэтым. Прыглядзься харашэнька да вынікаў комсамольскай працы за гэту восень у галіне сел. гаспадаркі і напішы допіс. Ён будзе цікавым. Не забудзься пра вячоркі. Напішы, як яны ў вас скарыстоўваюцца, што трэба зрабіць для таго, каб гэтыя вячоркі давалі карысьць моладзі. Пішы аб усім жыцьці моладзі твае і суседняе вёскі.

6. Прысылай у рэдакцыю розныя запытаньні, на якія ты атрымаеш адказ лістом, частушкі і песьні, якія сьпявае ваша вёска, прыказкі і жарты, водгукі аб часопісі, матэрыял для гэтай старонкі і інш.

# — ПАДПІСВАЙЦЕСЯ —

— і —

## ЧЫТАЙЦЕ

двухтыднёвую часопісь
сялянскай моладзі

# „МАЛАДЫ АРАТЫ"

## ОРГАН

**Цэнтральнага Комітэту Ленінскага Комуністычнага Саюзу Моладзі Беларусі.**

**Умовы падпіскі—з дасылкаю да хаты:**

на 1 месяц — 15 кап.,
на 3 месяцы—45 кап.,
на 6 месяцаў—90 кап.



**Падпіска прымаецца**

ў Менску Контрагэнцтвам друку (Савецкая 63)

і ў провінцыі—усімі аддзяленьнямі Бел. Дзярж. Выдавецтва, агэнтамі і ўпоўнаважанымі, а таксама ўсімі паштова-тэлеграфнымі аддзяленьнямі.



**„МАЛАДЫ АРАТЫ"**—на сваіх старонках праводзіць гутаркі аб **політыцы**. Высьвятляе ўсе цікавячыя сялянскую моладзь пытаньні.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ"**—праводзіць аґрономічныя гутаркі, высьвятляе асобныя лепшыя гаспадаркі.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ"**—дае парады сялянскай моладзі, у **каго вывучыцца**, зьмяшчаючы жыцьцёпісы правадыроў БССР і СССР.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ"**—вядзе барацьбу за **новую вёску**, змагаецца з усімі дрэннымі бакамі жыцьця вёскі.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ"**—друкуе творчасьць сялянскай моладзі: апавяданьні, вершы, прыпеўкі, жарты. Таксама друкуе комсамольскія п'есы і песьні.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ"**—для сялянскае моладзі будзе высьвятляць жыцьцё і працу моладзі гораду.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ"**—друкуе артыкулы па пытаньнях Комсамолу, Комуністычнай Партыі, зьвязаных з працаю вёскі.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ"**—таксама высьвятляе жыцьцё вёскі, друкуючы корэспондэнцыі, лісты вясковай моладзі і г. д.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ"**—высьвятляе жыцьцё сялян і рабочых Заходняй Беларусі.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ"**—таксама друкуе матэрыялы для забаў: загадкі, гульні і г. д.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ"**—дае параду моладзі, што чытаць, водзывы аб кніжках як бібліотэкі „Чырвоная Зьмена", так і інш.

